*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48 (536) 5 СНЕЖНЯ 2001 г.

## Гаспадарчы суд падказвае: "Бараніце "Пагоню"

ВЫШЭЙШЫ ГАСПАДАРЧЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Мінск, вул. Валадарскага, 8
Тэл./факс: (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09



ВЫСШИЙ ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ СУД РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Минск, ул. Володарского, 8
Тел./факс (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09

**Supreme Economic Court of Republic of Belarus**

"26" 11 2001 г.
№ 01-10/767

**Грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь, разгледзеўшы Ваш зварот, паведамляе.

У адпаведнасці з артыкулам 204 Гаспадарчага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь са скаргай у парадку нагляду маюць права звярнуцца бакі і іншыя асобы, якія ўдзельнічалі ў справе, а таксама асобы, чые правы і інтарэсы, якія ахоўваюцца законам, парушаны вынесеным па справе судовым актам.

Пры падачы скаргі ў парадку нагляду неабходна кіравацца Гаспадарчым працэсуальным кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Адносна Вашай ацэнкі прынятага судовага акта, тлумачым, што гаспадарчы суд прымае рашэнне толькі на тых доказах, якія былі даследаваны ў пасяджэнні.

**Намеснік Старшыні**
**Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь Я. А.Смірноў.**

*Такі вось адказ атрымала ТБМ на зварот, накіраваны ў Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь з нагоды закрыцця беларускамоўнай газеты "Пагоня". Фармальна яго можна чытаць "Не лезьце не ў свае справы". Але на тое і сядзяць у гаспадарчым судзе юрысты вышэйшай катэгорыі, на тое і пішуць яны дакладна, каб не чытаць напісанае фармальна, а чытаць літаральна. Літаральна ж напісана, што скаргі могуць падаваць асобы, чые правы і інтарэсы парушаны вынесеным па справе судовым актам.*

*Чые ж правы і ўнтарэсы парушаны закрыццём "Пагоні"?*

*Парушаны інтарэсы ТБМ, якое змагаецца за беларусізацыю СМІ, закрыта адна з чатырох ці пяці беларускамоўных недзяржаўных газет. ТБМ звярнулася да суда.*

*Парушаны правы падпісчыкаў. Але дзе тут масавыя звароты і тысячы лістоў?*

*Парушаны правы кожнага грамадзяніна на атрыманне інфармацыі, бо закрыта рэспубліканская газета. А тут дзе тысячы лістоў?*

*Як відно з адказу, Гаспадарчы суд чакае гэтых лістоў. Але ці напісалі або ці напішуць іх талерантныя беларусы?*



## 9 снежня - 110 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча



### Запрашаем на імпрэзу

**Цэнтральная бібліятэка імя Янкі Купалы разам з Менскай гарадской арганізацыяй "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ладзяць святочную імпрэзу з нагоды 110-х угодкаў з дня народзінаў Максіма Багдановіча 8 снежня а 16 гадзіне ў памяшканні Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Бяруць удзел паэты, барды і музыканты. Запрашаюцца настаўнікі, а таксама навучэнцы краязнаўчых гурткоў, а яшчэ —усе ахвотныя.**

**Менская гарадская Рада ТБМ.**

### Дарагія сябры!

**9 снежня 2001 года ў Менскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) адбудзецца літаратурна-музычная вечарына "Ты вышэй ад усіх, Страцім...", прысвечаная 110-й гадавіне з Дня народзін Максіма Багдановіча. У імпрэзе бяруць удзел: А. Вярцінскі, С. Панізнік, М. Скобла, Л. Галубовіч, А. Камоцік, Э. Акулін, А. Галіч і іншыя вядомыя паэты і барды.**

**Пачатак вечарыны – а 16-ай гадзіне. Уваход вольны.**

**Ушануем самага маладога класіка беларускай літаратуры!**

*Матэрыялы, прысвечаныя Максіму Багдановічу, чытайце на старонках 6, 7 і 12.*

## *АБВЕСТКА*

Чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ адбудзецца 16 снежня 2001 года ў памяшканні Дольнай залы Чырвонага касцёла, што на плошчы Незалежнасці ў Менску.

Пачатак працы ў 11 гадзін.

**Парадак дня:**
1. Справаздача аб дзейнасці ТБМ у 2001 годзе.
2. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана работы ТБМ на 2002 год.
3. Аб працы над праектам "Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".
4. Аб памеры і чарговасці збірання сяброўскіх складак.
5. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.
6. Рознае.

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48 (536) 5 СНЕЖНЯ 2001 г.

## Гаспадарчы суд падказвае: "Бараніце "Пагоню"

ВЫШЭЙШЫ ГАСПАДАРЧЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Мінск, вул. Валадарскага, 8
Тэл./факс: (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09



ВЫСШИЙ ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ СУД РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
220050, г. Минск, ул. Володарского, 8
Тел./факс (017) 227-16-41, (0172) 27-40-09

Supreme Economic Court of Republic of Belarus

"26" 11 2001 г.
№ 01-10/767

**Грамадскаму аб'яднанню "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь, разгледзеўшы Ваш зварот, паведамляе.

У адпавведнасці з артыкулам 204 Гаспадарчага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь са скаргай у парадку нагляду маюць права звярнуцца бакі і іншыя асобы, якія ўдзельнічалі ў справе, а таксама асобы, чые правы і інтарэсы, якія ахоўваюцца законам, парушаны вынесеным па справе судовым актам.

Пры падачы скаргі ў парадку нагляду неабходна кіравацца Гаспадарчым працэсуальным кодэксам Рэспублікі Беларусь.

Адносна Вашай ацэнкі прынятага судовага акта, тлумачым, што гаспадарчы суд прымае рашэнне толькі на тых доказах, якія былі даследаваны ў пасяджэнні.

**Намеснік Старшыні**
**Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь Я. А.Смірноў.**

*Такі вось адказ атрымала ТБМ на зварот, накіраваны ў Вышэйшы Гаспадарчы Суд Рэспублікі Беларусь з нагоды закрыцця беларускамоўнай газеты "Пагоня". Фармальна яго можна чытаць "Не лезьце не ў свае справы". Але на тое і сядзяць у гаспадарчым судзе юрысты вышэйшай катэгорыі, на тое і пішуць яны дакладна, каб не чытаць напісанае фармальна, а чытаць літаральна. Літаральна ж напісана, што скаргі могуць падаваць асобы, чые правы і інтарэсы парушаны вынесеным па справе судовым актам.*

*Чые ж правы і ўнтарэсы парушаны закрыццём "Пагоні"?*

*Парушаны інтарэсы ТБМ, якое змагаецца за беларусізацыю СМІ, закрыта адна з чатырох ці пяці беларускамоўных недзяржаўных газет. ТБМ звярнулася да суда.*

*Парушаны правы падпісчыкаў. Але дзе тут масавыя звароты і тысячы лістоў?*

*Парушаны правы кожнага грамадзяніна на атрыманне інфармацыі, бо закрыта рэспубліканская газета. А тут дзе тысячы лістоў?*

*Як відно з адказу, Гаспадарчы суд чакае гэтых лістоў. Але ці напісалі або ці напішуць іх талерантныя беларусы?*



## 9 снежня - 110 гадоў з дня нараджэння Максіма Багдановіча



### Запрашаем на імпрэзу

**Цэнтральная бібліятэка імя Янкі Купалы разам з Менскай гарадской арганізацыяй "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" ладзяць святочную імпрэзу з нагоды 110-х угодкаў з дня народзінаў Максіма Багдановіча 8 снежня а 16 гадзіне ў памяшканні Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Бяруць удзел паэты, барды і музыканты. Запрашаюцца настаўнікі, а таксама навучэнцы краязнаўчых гурткоў, а яшчэ —усе ахвотныя.**

**Менская гарадская Рада ТБМ.**

### Дарагія сябры!

**9 снежня 2001 года ў Менскім палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41) адбудзецца літаратурна-музычная вечарына "Ты вышэй ад усіх, Страцім...", прысвечаная 110-й гадавіне з Дня народзін Максіма Багдановіча. У імпрэзе бяруць удзел: А. Вярцінскі, С. Панізнік, М. Скобла, Л. Галубовіч, А. Камоцік, Э. Акулін, А. Галіч і іншыя вядомыя паэты і барды.**

**Пачатак вечарыны – а 16-ай гадзіне. Уваход вольны.**

**Ушануем самага маладога класіка беларускай літаратуры!**

*Матэрыялы, прысвечаныя Максіму Багдановічу, чытайце на старонках 6, 7 і 12.*

## АБВЕСТКА

Чарговае пасяджанне Рэспубліканскай Рады ТБМ адбудзецца 16 снежня 2001 года ў памяшканні Дольнай залы Чырвонага касцёла, што на плошчы Незалежнасці ў Менску.

Пачатак працы ў 11 гадзін.

**Парадак дня:**

1. Справаздача аб дзейнасці ТБМ у 2001 годзе.
2. Абмеркаванне і зацвярджэнне плана работы ТБМ на 2002 год.
3. Аб працы над праектам "Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".
4. Аб памеры і чарговасці збірання сяброўскіх складак.
5. Аб зменах у складзе Сакратарыяту ТБМ.
6. Рознае.





# Міністэрства юстыцыі амаль беларускамоўнае

Пасля сфармавання новага ўраду Рэспублікі Беларусь ад імя ТБМ былі накіраваныя віншаванні ўсім міністрам і некаторым намеснікам наступнага зместу:

*"Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны віншуе вас з прызначэннем на вельмі высокую і адказную пасаду ў гэты нялёгкі і пераломны час для нашай Бацькаўшчыны.*

*Спадзяёмся, што Вы зробіце ўсё магчымае для надання беларускай мове, мове тытульнай нацыі нашай краіны, рэальнага статусу дзяржаўнай беларускай мовы.*

*ТБМ таксама хацела б даведацца, як Ваша шаноўнае ведамства збіраецца выконваць перадвыбарчую праграму А.Р. Лукашэнкі, дзе падкрэслівалася неабходнасць усталявання рэальнай роўнасці дзвюх дзяржаўных моў. У сувязі з гэтым просім адказаць на наступныя пытанні:*

*- на якой мове вядзецца справаводства ў Вашай установе?*

*- на якой мове праводзяца калегіі і працоўныя пасяджэнні?"*

Ад Міністэрства юстыцыі паступіў грунтоўны адказ, які мы прапануем чытачам.

**2.11.2001 г. № 04-16/12537**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13**

**Аб статусе дзяржаўнай беларускай мовы ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь**

**Паважаны Алег Трусаў!**

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь у адказ на Вашы пытанні паведамляе наступнае.

У адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы.

З 1 верасня 1993 года справаводства, перапіска з Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, з Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, з рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, з арганізацыямі, у тым ліку з грамадскімі аб'яднаннямі ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь вядзецца на беларускай і рускай мовах. Адказы на заявы, скаргі грамадзян афармляюцца на беларускай і рускай мовах.

Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь распрацоўвае праекты і дае заключэнні аб праектах заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь і пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь таксама на беларускай альбо рускай мовах. У прыватнасці, у адпаведнасці з Дакладной запіскай Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь ад 5 жніўня 1999 года № 12/59 у мэтах рэалізацыі артыкула 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і забяспячэння роўнасці дзяржаўных моў, **толькі на беларускай мове** рыхтуюцца праекты пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па наступных пытаннях:

зацвярджэнне складу калегій міністэрстваў, іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, а таксама складу розных камісій, саветаў, дэлегацый;

узнагароджанне Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

увекавечанне памяці выдатных дзеячоў, аказанне грашовай дапамогі;

правядзенне перагавораў па праектам міжнародных пагадненняў (дагавароў, Канвенцый); упаўнаважанне на вядзенне перагавораў, удзел у розных пасяджэннях, заключэнне і падпісанне пагадненняў (дагавароў, Канвенцый, пратаколаў) аб супрацоўніцтве па розных пытаннях;

выдзяленне міністэрствам, іншым органам дзяржаўнага кіравання, аблвыканкамам, а таксама асобным гарадам і раенам грашовых сродкаў;

выдзяленне аб'яднанням, прадпрыемствам і арганізацыям, калгасам і саўгасам фінансавай дапамогі, бюджэтных пазык, прадаўжэнне тэрміну іх пагашэння і вызваленне ад выплаты пені;

перадача права кіравання маёмасцю (у тым ліку перадача Мінабароны суб'ектам гаспадарання будынкаў, збудаванняў, тэхнічных сродкаў);

кадравыя пытанні.

Праваўстаноўчыя дакументы зарэгістраваных палітычных партый, прафсаюзаў, іншых грамадскіх аб'яднанняў афармляюцца на беларускай мове. Па жаданню кіруючых органаў усе рэгістрацыйныя матэрыялы грамадскіх аб'яднанняў афармляюцца толькі на беларускай мове. Прыём наведвальнікаў і гутарка з імі, па жаданню, таксама вядзецца на беларускай мове.

Увогуле, у Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь рэальна дзейнічае статус дзяржаўнай беларускай мовы ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

**Міністр В. Р. Галаванаў.**

---

"26" кастрычніка 2001 г.

**Кіраўніку Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У. Р. Латыпаву**

**Паважаны Урал Рамдракавіч!**

Кіраўніцтва ТБМ уздзячна Вам за ўвагу да нашага ліста пра лёс Светлагорскага гуманітарнага ліцэя. Аднак адказ, які па Вашаму загаду накіравала нам Міністэрства адукацыі, задаволіць нас не можа (ліст №20-06/233 ад 15.10. 2001 падпісана сп. Дылянам Г.Д.). З гэтага адказу вынікае, што ўвесь час філіял Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа ў Светлагорску існаваў "з парушэннем заканадаўства". Аднак гэта не перашкодзіла яму стаць адной з самых прэстыжных навучальных устаноў не толькі ў Светлагорску, але і на Гомельшчыне.

Цікава, куды ўвесь гэты час глядзела Міністэрства адукацыі Беларусі і, у тым ліку, намеснік міністра сп. Г. Д. Дылян? Чаму адказныя чыноўнікі гэтага ведамства не дапамаглі гарадскім уладам Светлагорска захаваць ліцэй, як асяродак нешматлікай беларускамоўнай адукацыі на Гомельшчыне?

У выніку справа зроблена, ліцэй зачынены, а яго навучэнцаў турбуе мясцовая пракуратура.

Шаноўны Урал Рамдракавіч! Ведаючы Вашае становучае стаўленне да развіцця беларускай культуры, просім Вас паспрыяць пераўтварэнню сярэдняй школы № 1 г. Светлагорска ў гімназію з беларускай мовай навучання, у адпаведнасці з пастановай Міністэрства адукацыі ад 28 жніўня 2001 г., № 48.

Такім чынам апошні беларускамоўны асяродак у Светлагорску будзе захаваны. Гэта, безумоўна, будзе адпавядаць прадвыбарным абяцанням А. Р. Лукашэнкі аб рэальнай роўнасці беларускай і рускай моваў.

**З павагай**

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

---

"15" лістапада 2001 г. № 551

**Першаму намесніку Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь Жуку А. І.**
**# 9, Савецкая, 220010, Менск.**

**Паважаны Аляксандр Іванавіч!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны віншуе Вас з прызначэннем на вельмі высокую і адказную пасаду ў гэты нялёгкі і пераломны час для нашай Бацькаўшчыны.

Спадзяемся, што Вы зробіце ўсё магчымае для надання беларускай мове, мове тытульнай нацыі нашай краіны, рэальнага статусу дзяржаўнай беларускай мовы.

Як нам стала вядома, у кіраўнічых колах нашай краіны абмяркоўваецца прапанова ТБМ аб адкрыцці ў Беларусі Беларускага нацыянальнага універсітэта. У сувязі з гэтым мы прапануем арганізаваць і правесці "круглы стол" па гэтым пытанні з Вашым непасрэдным удзелам.

**З павагай,**

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

---

# Дыялог, які не адбыўся

Напрыканцы лістапада ў Менску адбылася міжнародная канферэнцыя "Менскі форум V. Беларусь: палітыка, эканоміка, міжнародныя стасункі".

Праводзіў канферэнцыю аналітычны цэнтр "Стратэгія" пры ўдзеле КНГ АБСЕ, амбасадаў ЗША і Германіі, фонду Фрыдрыха Эберта і некаторых іншых нямецкіх грамадскіх арганізацый.

На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі беларускай улады, кіраўнікі беларускіх партый і рухаў, незалежных грамадскіх арганізацый, прафсаюзаў, вядомыя навукоўцы, палітолагі і эканамісты, журналісты, амбасадары розных краін.

Сярод запрошаных быў і старшыня ТБМ Алег Трусаў. Праца форуму доўжылася тры дні. На форуме былі абмеркаваны ўнутраная палітыка Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў, знешняя палітыка ў Еўропе і месца Беларусі ў ёй, суадносіны паміж грамадствам і асобай, некаторыя аспекты міжнароднай бяспекі, звязаныя з праявамі міжнароднага тэрарызму.

Сярод прысутных была распаўсюджана справаздача амбасадара Ханса-Георга Віка пад назвам "Беларусь пасля выбараў: вынікі, легітымнасць, назіранне". Паколькі сябры ТБМ прынялі актыўны ўдзел у незалежным назіранні, прывядзём цытату з гэтага дакумента: *3. "Характэрна, што справаздача місіі доўгатэрміновых назіральнікаў Асацыяцыі арганізатараў выбараў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы таксама ўтрымоўвае крытычныя водгукі... У выніку ўдасканаленняў, дасягнутых у манеры правядзення выбараў пад жорсткім дзяржаўным кантролем,* ***працадура фальсіфікацыі перастала быць колькі-небудзь бачнай...***"

Шмат якія нямецкія палітыкі рабілі рэверансы перад кіраўніцтвам Беларусі і заклікалі яго да паэтапнага дыялогу, нягледзячы на вынікі апошніх прэзідэнцкіх выбараў. Іх прыхільнік, сп. Мікола Статкевін запэўніў прысутных, што яго партыя возьме актыўны ўдзел у выбарах у т. зв. "саюзны парламент". Аднак, нават такія абяцанкі не дапамаглі і ўлады на канферэнцыю проста не прыйшлі, бо ніякай "дэмакратызацыі" ім не трэба.

***Наш карэспандэнт.***

# Да 110-годдзя Аркадзя Смоліча

Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне вымусціла маркаваны мастацкі канверт да 110-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Смоліча, аўтара першага падручніка "Геаграфія Беларусі".




# БЕЛАРУСКАЯ АФІША

**6 снежня.** 19.00. Тэатр Юнага Гледача (Энгельса, 26). Прэм'ера сольнага праекту Зміцера "Тодара" Вайцюшкевіча (КРЫВІ) "Цацачная крама" на вершы паэта Леаніда Дранько-Майсюка. У праграме таксама выкананне песень з супольных музычных праектаў: "Народны альбом", "Святы вечар". "Я нарадзіўся тут".

**12 снежня.** ДК МТЗ. Юбілейны канцэрт легенды беларускага року "КРАМА – 10 год" з прэзентацыяй новага альбома "Хавайся ў бульбу!". Пачатак 19.00.

**13 снежня.** ДК МТЗ. Прэзентацыя альбома "Прилітай!" гурта "Нічний портьє" з удзелам гуртоў "Тяни-Толкай", праектаў "Made in Belarus" і "Made in Ukraine". Пачатак 19.00.

**25 снежня.** ДК МТЗ. "ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ НА КАЛЯДЫ" з удзелам "Палац", "POSTSCRIPTUM", "Акруга Вольнага Мастацтва" і інш.

Пачатак 19.00.

Сувязь з арганізатарамі: 8-0296-490888, 2118585 (аб.БМА).





# СТАРАДАРОЖСКІ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ

## Ствараецца зала заходнебеларускага мастацтва

*Музей выяўленчага мастацтва (Фонд Анатоля Белага) стварае адмысловую залу заходнебеларускага мастацтва 20-30-х г.г. Кіраўніцтва музея, клуб "Спадчына", Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны, Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", "Камітэт ушанавання", а таксама газета "Наша слова" звяртаюцца да ўсіх беларусаў Бацькаўшчыны, Віленскага краю, Беласточчыны, замежжа, у каго перазахоўваюцца творы заходнебеларускіх мастакоў аказаць пасільную дапамогу ў стварэнні такой залы.*

*Усіх хто падтрымае агульнанацыянальныя намаганні будуць адзначаны і за сваю дабрачыннасць ганараваныя "Камітэтам ушанавання".*

*Чакаем Вашых прапаноў і садзеяння,*

*Тэлефануйце Анатолю Беламу тэл. 2-35-66-08 (Менск), альбо 8-292-55-2-53 (Старыя Дарогі).*




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!..*



*Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога даная...*




*Любіць Радзіму, шанаваць родную мову, захоўваць спадчыну...*




*Мову родную хто пазабыў, абсмяяў, загубіў за нішто, каб ён свету не знаў...*

***Наша даведка.*** *У 6-м Томе Энцыклапедыі гісторыі Беларусі змешчаны артыкул пра гэты музей, які мы прыводзім цалкам. У дадатак скажам, што за гэты час экспазіцыйная плошча музея значна павялічылася, яна ўяўляе – 4 двухпавярховыя будынкі, якія ўсе звязаны паміж сабой. У 8-мі залах з экспазіцыйнай плошчай звыш 500 м2 экспануецца звыш 1200 твораў мастацтва, якія разбіты па тэмах: "Гісторыя Беларусі ў мастацкіх вобразах і партрэтах", "Старажытная Беларусь", "Змагарная Беларусь", "Маладая Беларусь", "Любіць радзіму – шанаваць родную мову", "Максім Багдановіч", "Францішак Багушэвіч", а цяпер ствараецца зала мастакоў Заходняй Беларусі і замежжа.*

**Энцыклапедыя гісторыі Беларусі Т.6., кн. 1, Мн.2001 г.**

СТАРАДАРОЖСКІ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ. Засн. У 1990, адкрыты 11.11.1999 у г. Старыя Дарогі. Пл. экспазіцыі 150 м2, каля 3 тыс. экспанатаў асн. фонду (2000). Аснову калекцыі складае асабісты збор калекцыянера А. Я. Белага, у т. л. творы мастакоў Г. Вашчанкі, А. Лось, А. Марачкіна, В. Цвіркі, Г. і Я. Ціхановічаў, А. Цыркунова, Л. Шчамялёва, скульптараў С. Вакара, У. Летуна, У. Печкіна, А. Шатэрніка і інш. Сярод экспанатаў каля 120 партрэтаў вядомых бел. асоб, у т. л. Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, Т. Касцюшкі, С. Буднага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Цёткі, Ядвігіна Ш., Я. Лучыны, І. і А. Луцкевічаў, В. Ластоўскага, Я. Лёсіка, К. Каганца, Старога Уласа і інш.; больш за 100 партрэтаў полацкіх князёў, Вял. Князёў і дзярж. дзеячаў ВКЛ (Усяслава Брачыславіча, Віценя, Гедзіміна, Альгерда, Кейстута, Ягайлы, Жыгімонта І Старога, князёў Алелькавічаў, Радзівілаў, Храптовічаў, Л.Сапегі і інш.), намаляваных мастаком А. Крывенкам; 70 палотнаў, прысвечаных паўстанню 1863-64, і партрэты яго кіраўнікоў К. Каліноўскага і В. Урублеўскага; партрэты дзеячоў бел. замежжа М. Забэйды-Суміцкага, С. Карніловіча, З. і Я. Кіпеляў, Б. Кіта, К. Мерляка, А. Шукелойца і інш., сучасных дзеячаў нац. бел. гісторыі, культуры і мастацтва М. І. Ермаловіча, М.М.Улашчыка, У. А. Юхо, А. П. Грыцкевіча і інш. У экспазіцыі партрэт караля Яна III Сабескага, медальён караля Аўгуста III (17 ст.), карцін "Грунвальдская бітва 1410 г.", радаводы князёў Беларусі, графічныя творы мастакоў М. І У. Басалыгаў, Э. Агуновіча, С. Геруса, А. Кашкурэвіча, М. Селешчука і інш. да твораў А. Адамовіча, В. Быкава, М. Гусоўскага, У. Караткевіча, А. Лойкі, І. Гётэ, плакаты бел. мастакоў, вырабы разьбы па дрэве, збор медальернага (каля 600 экз.) і дэкар.-прыкладнога мастацтваў, вышыванкі.

*Анатоль Валахановіч.*

# ПАМЯЦЬ

### г. Менск

### кн. 1

У Менску ў выдавецтве БЕЛТА выйшла 1-я з чатырох кніг гісторыка-дакументальнай кронікі гарадоў і раёнаў Беларусі "Памяць. Мінск".

Першая кніга менскай кронікі ахоплівае перыяд гісторыі горада ад часоў старажытных да сярэдзіны XIX ст (1861 г.). Яна ўключае шматлікія гістарычныя нарысы і артыкулы, напісаныя спецыяльна для гэтага выдання, а таксама архіўныя дакументы, разнастайныя публікацыі з друкаваных крыніц і навуковыя даследванні па гісторыі Менска, даведачныя матэрыялы і інш.

У пошуку, зборы і напісанні матэрыялаў прымалі ўдзел прадстаўнікі грамадскасці Менска, навукоўцы, супрацоўнікі архіваў, бібліятэк, музеяў, пісьменнікі, журналісты, рэдактары.

Найбольш адметным з'яўляецца тое, што стваральнікі кнігі імкнуліся прытрымліваца прынцыпу плюралізму пры асвятленні падзей гісторыі Менска. Таму ў кроніцы прадстаўлены артыкулы, у якіх выказваюцца розныя, нярэдка супрацьлеглыя погляды.

У гэтым складальнікі працягнулі традыцыі тых творчых калектываў, якія пры складанні падобных кронікаў для іншых гарадоў і раёнаў паставілі прынцыпы навуковасці і праўдзівасці ў аснову працы, напрыклад, такая ж кніга Нясвіжскага раёна, у супрацьвагу тым раёнам, якія дзеля




тога, каб дагадзіць уладзе, гатовы выкрасліць, або "забыць" палову падзей і імёнаў.

Так у спісе даследчыкаў менскай гісторыі знайшлося месца і У. Ігнатоўскаму, і Л. Абэцэдарскаму, і А. Ельскаму, і М. Ермаловічу, і А. Грыцкевічу, і З. Пазняку, і Старшыні ТБМ Алегу Трусаву.

Не прамінулі ў кнізе і аўтараў шэрагу гістарычных мастацкіх кніг У. Арлова, К. Тарасава, В. Чаропку.

Трэба спадзявацца, што і астатнія кнігі менскай "Памяці" будуць вытрыманы ў тым жа духу.

*Яраслаў Грынкевіч.*

Да 110-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ І МУЗЫКА

## (Новыя тэхналогіі выкладання творчасці М. Багдановіча)

*Выпускнік сучаснай масавай школы павінен не толькі ведаць папярэднюю сусветную культуру, але і валодаць яе галоўнымі нацыянальнымі часткамі. Іншымі словамі, сучасная агульнаадукацыйная школа павінна не толькі даць школьніку трывалыя веды пра сучасную культуру, але і ўжывіць немаўляці "кантэкст этнакультуры да ўзроўню яго этнічнай самасвядомасці", а потым яшчэ развіць здольнасці вучня "да ўзроўня нацыянальнай па форме культурнавытворчай дзейнасці".*

*А гэта значыць, што побач з вучэбнымі дысцыплінамі, якія развіваюць лагічнае мысленне, павінны ўкараніцца прадметы такой мастацкай адукацыі, якая не толькі развівае другую палову мозгу – тую, якая кіруе вобразным мысленнем, але дапамагае авалодаць галоўнымі часткамі нацыянальнай культуры. Гэта такая адукацыйна-выхаваўчая парадыгма, у якой абавязковымі навучальнымі прадметамі з'яўляюцца тэатральны фальклёр, традыцыйныя рамёствы, спевы, фальклёрны танец, музычны фальклёрны інструмент.*

*Пад уздзеяннем псіхолага-педагагічнага і грамадска-метадычнага руху, значна павысілася цікавасць да праблемы пошукаў дыдактыка-метадычных падыходаў, сродкаў, новых тэхналогій навучання літаратуры ў пачатковай, базавай і сярэдняй агульнаадукацыйнай школах у цеснай сувязі з прадметамі мастацка-эстэтычнага цыклу.*

*Паглыбленая ўвага да вывучэння роднай літаратуры, роднай мовы, культуры свайго народа ставарае шырокія магчымасці для выхавання асобы з пачуццём нацыянальнай годнасці, гонару за свой край, людзей свайго краю, асобы з тонкай, чулай, спагадлівай душою. А таксама – спрые развіццю творчых задаткаў як настаўніка, так і вучня, нарыхтоўцы апошняга да навучання ў педагагічных ВНУ Рэспублікі Беларусь.*

*Лепшыя ўзоры творчасці беларускіх пісьменнікаў натхняюць да творчасці кампазітараў, мастакоў і іншых дзеячоў культуры. Дзеці павінны ведаць, што паводле мастацкіх твораў розных жанраў ствараюцца балеты, оперы, на вершы паэтаў напісаны рамансы, песні. У гэтай сувязі трэба адзначыць, што рэкамендацыі, доследы вучоных-педагогаў, вядомых дзеячоў культуры сведчаць аб тым, што вырашыць гэтыя педагагічныя праблемы ў поўнай ступені дапамогуць новыя дыдактыка-метадычныя тэхналогіі, скіраваныя на навучанне роднай літаратуры ў цеснай сувязі з прадметамі мастацка-эстэтычнага цыклу, прычым, калі навучанне і выхаванне будзе спрыяць творчаму пачатку, у сваю чаргу скіраванаму на "фармаванне ў школьнікаў пачуцця прыгожага ў мастацтве і жыцці, выхаванне высокіх эстэтычных густаў".*

Глыбіня зместу, пластыка формы, мілагучнасць, сапраўдная музычнасць верша здзіўляюць кожнага, хто знаёміцца з творчасцю вялікага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Што ж спрыяла ўзбагачэнню музычнага свету М. Багдановіча? Нагадаем, што ў артыкуле "Забыты шлях" сам паэт зазначае: "... трэба трымацца народнай песні, як сляпы трымаецца плота". Уся музыка для паэта – гэта песня, якая ўслаўляе жыццё, хоць гэта жыццё "вельмі часта і бязлітаснае для людзей". Музычныя схільнасці М. Багдановіча знаходзяць адлюстраванне ў ягонай творчасці: у сваіх лепшых творах паэт пайшоў да поўнага адзінства думкі, пачуцця і музыкі слова, - адзначаюць даследчыкі яго творчасці. Не многім аўтарам удаецца дасягнуць такой празрыстасці, такой чысціні гучання верша, якая адрозніває яго радкі:

***Па-над белым пухам вішняў***
***Быццам сіні агнёк,***
***Б'ецца, уецца шпаркі, лёгкі***
***Сінякрылы матылёк.***

Музычнасць, песеннасць паэта народжана шэрагам жыццёвых абставін. Пры першым знаёмстве з творамі паэта, настаўнік найперш расказа школьнікам яго біяграфію.

Нарадзіўся М. Багдановіч у Менску 9 снежня 1891 года. Праз паўгода сям'я пераехала ў Горадню. Максіму было пяць гадоў, калі ад хуткацечных сухотаў памерла маці. Яна мела музычную падрыхтоўку, як таго вымагалі патрабаванні да настаўніцы са спецыяльнай педагагічнай адукацыяй. Маці паэта прыгожа спявала, асабліва быў любы ёй раманс Глінкі "Паўночная зорка". Бацька з сям'ёй пераехаў у Ніжні Ноўгарад. Там жылі дзве цёткі Максіма – Марыя і Магдаліна, сем'і Галаванаў і Гапановічаў. "Цяжка пераацаніць іх ролю ў творчым станаўленні паэта. Тут уладарыла ў нейкай ступені атмасфера беларускага жыцця-быцця. Вядома, толькі цёткі лічылі сябе беларускамі, па-беларуску размаўлялі, спявалі беларускія песні" (І. Навуменка).

Тут, далёка ад сваёй радзімы, Максіму вельмі спадабалася святкаванне Дзядоў, Каляд, Гукання вясны, Вялікадня... У 10 гадоў Максім самавукам стаў пісаць па-беларуску, потым у яго вершах "Сумна мне", "Вечар", "Не кувай ты, шэрая зязюля" прагучаць радкі з вядомых яшчэ з дзяцінства беларускіх народных песень.

Калі Максім пачаў вучыцца ў Ніжагародскай гімназіі, музыка яшчэ больш увайшла ў яго жыццё, у яго духоўны свет. І прычын тут было нямала. Нагадаем, што музычнае асяроддзе, у якім выхоўваўся паэт, не абмяжоўвалася толькі сям'ёю. А. М. Горкі меў непасрэдныя адносіны да Багдановічаў, як блізкі сябра Адама Ягоравіча і як сваяк. І, як вядома, на кватэры Горкага неадназразова можна было пачуць геніяльнае майстэрства Шаляпіна. У 1911 годзе, пасля гімназіі М. Багдановіч паступае ў Яраслаўскі юрыдычны ліцэй. Там ён актыўна праводзіць літаратурныя вечары і своеасаблівыя канцэрты, на якіх выконваюцца беларускія народныя песні.

Верш "Уся ў слязах дзяўчына", які датуецца 1911 г., сведчыць аб блізкім знаёмстве М. Багдановіча з народнымі песнямі. Ключ для ўспрымання верша захаваны не толькі ў звычайным для народнай песні паралелізме вобразаў, але і ў характэрнай канцоўцы. У гэтым жа годзе М. Багдановіч прыязджае з Яраслаўля на Радзіму па запрашэнні рэдакцыі беларускай газеты "Наша ніва". Два месяцы працягваўся знаёмства з Радзімай. "Менавіта тут збылася мара паэта пасля доўгага растання. Тут, у Ракуцёўшчыне, створаны цыклы вершаў "Старая Беларусь", "Места" і дзве паэмы "У вёсцы" і "Вераніка". Апошнія дзве паэмы ўвайшлі ў цыкл "Мадонны". Усё гэта потым уключана ў адзіны невялікі памерам прыжыццёвы зборнік "Вянок", які выйшаў у 1913 г. у Вільні.

Вершы М. Багдановіча, уключаныя ў зборнік "Вянок" сталі яшчэ больш вядомымі шырокім масам, яны ўключаліся ў падручнікі-чытанкі і хрэстаматыі, выходзілі асобнымі выданнямі. Кожны школьнік завучваў на памяць адзін з найбольш вядомых твораў паэмы, яго несумненны шэдэўр, верш "Слуцкія ткачыхі". І невыпадкова праз многа год, ужо ў час Вялікай Айчыннай вайны. выдатны наш беларускі паэт-партызан Анатоль Астрэйка зборніку сваіх вершаў, які быў выдадзены ў глыбокім падполлі на радзіме "багдановічскіх ткачых", надаў назву – "Слуцкі пояс".

Пасля наведвання Беларусі М. Багдановіч плённа займаецца беларусазнаўствам, вывучае рускую і замежную літаратуру. У гэты час ён заканчвае Яраслаўскі Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй. У кастрычніку 1916 года М. Багдановіч зноў прыехаў у Менск, каб дыхнуць "паветрам Бацькаўшчыны, пачуць жывую беларускую мову" і акунуцца ў атмасферу роднай песні. Паэт пасяліўся на кватэры З. Бядулі. Адразу стаў працаваць у Менскім губернскім харчовым камітэце, створаным творчай інтэлігенцыяй, які ставіў мэтай дапамагаць тым, хто пацярпеў у гады імперыялістычнай вайны. Камітэтам быў адкрыты клуб пад назвай "Беларуская хатка", дзе наладжваліся вечары беларускай народнай музыкі, паэзіі і песні, працавала сталоўка.

Пасля службы Максім Багдановіч звычайна наведвае Пушкінскую публічную бібліятэку (зараз Менская абласная бібліятэка імя А.С. Пушкіна), да 3 – 4 гадзін раніцы працуе яшчэ дома. Ён часта выступае перад моладдзю, задумвае хрэстаматыю для пачатковай школы, многа піша. Паэт шмат часу аддаваў складанню беларускага буквара, літаратурнай хрэстаматыі, для якой напісаў нават некалькі нарысаў.

У гэты ж час ён піша адзін з самых драматычных твораў – верш "Пагоня". З-пад пяра паэта выходзіць паэма "Страцім-лебедзь", якая стала, як адзначаюць крытыкі, яго лебядзінай песняй. Максімаў Страцім-лебедзь закранаў прысутных слухачоў. У "Беларускай хатцы" разам са сваімі менскімі сябрамі М. Багдановіч сустрэў 1917 год.

Здароўе Максіма, між тым, пагаршалася. У лютым сябры пасылаюць яго лячыцца ў Ялту. Паэт і там напружана працуе. Піша вершы "Набягае яно...", "Пралятайце вы, дні...", "У краіне светлай, дзе я ўміраю...", плануе выданне новых зборнікаў, працягвае складваць беларускі буквар... Аднак намерам паэта не суджана было спраўдзіцца. Сын Беларусі памёр у Ялце ад туберкулёзу на досвітку 25 траўня 1917 г., на 26-м годзе жыцця. Рукі чужых людзей пахавалі яго на Аўткінскіх могілках, непадалёк ад дачы Чэхава.

Сімвалам паэзіі Максіма Багдановіча стала слова "Зорка". Талент паэта як зорка яркая свеціць людзям, дорыць нам "светлыя згадкі", будзіць у нашых сэрцах пачуцці прыгажосці, любоў да роднай Беларусі, да чалавека.

Узнікае пытанне. Ці захаваюць у сабе школьнікі добры купалаўскі, коласаўскі, багдановічскі агеньчык, калі стануць дарослымі? Ці стануць вершы класікаў беларускай літаратуры і песні, напісаныя на іх творы спадарожнікамі жыцця выпускнікоў школы, ці паклічуць іх да самаўдасканалення?

Аднак, не сакрэтам з'яўляецца той факт, што вучні не могуць назваць канкрэтныя імёны мастакоў, скульптараў, кампазітараў. Так, напрыклад, вучні чацвёртых класаў, дзе студэнты праходзілі педагагічную практыку, не змаглі адказаць на пытанне "Якую вы ведаеце оперу, пастаўленую паводле твораў М. Багдановіча? Хто аўтар музыкі і лібрэта?" (Опера "Зорка Венера", музыка Ю. Семянякі, лібрэта А. Бачылы. Вядома таксама поп-опера Ігара Паляводы "Максім" паводле твораў М. Багдановіча, лібрэта Л. Пранчака).

І музычны твор на верш паэта вельмі дапаможа настаніку, а дзеці ў сваю чаргу далучаюца да нацыянальна-музычнай культуры. У гэтай сітуацыі важна ведаць настаўніку не толькі тое, як яго слухаюць школьнікі, але і тое, як сам настаўнік настроены на слуханне музычнага твору.

"Зорка Венера ўзышла над зямлёю..." – адзін з самых вядомых вершаў М. Багдановіча. Дзякуючы таму, што твор пакладзены на музыку, вучні з задавальненнем услухоўваюцца ў словы цудоўнага рамансу. Яго можна паслухаць падчас першай размовы пра паэта. Пажадана, каб настаўнік пачатковых класаў перыядычна вывешваў табліцу-схему "Творы М. Багдановіча, пакладзеныя на музыку".

Навучанне літаратуры ўключае ў сабе не толькі веданне біяграфіі і твораў паэта, але і працэс вывучэння літаратуры, і штосьці "звыш таго" – творчасць. Менавіта творчы элемент і павінен ляжаць у аснове навучання літаратуры ў цеснай сувязі з прадметамі мастацка-эстэтычнага цыклу.

Няма патрэбы гаварыць, якую вялікую паслугу па вывучэнню літаратуры зрабілі тыя беларускія кампазітары і мастакі, якія перaклалі на мову свайго мастацтва класічныя творы літаратуры або стварылі паводле іх яркія арыгінальныя творы музыкі, жывапісу.

Музыкальна-паэтычная вартасць песень, рамансаў, музычных твораў, напісаных на словы М. Багдановіча выяўляюцца ў яркіх, даступных мелодыях, у вялікай вобразнасці. Валодаючы вялікай сілай эмацыянальнага ўздзеяння, песні, напісаныя на вершы паэта, служаць адным з сродкаў фармавання маральных і эстэтычных ідэалаў, а таксама развіваюць творчую ініцыятыву, садзейнічаюць больш глыбокаму пазнанню вобліку самога аўтара вершаў.

**Табліца "Творы М. Багдановіча, пакладзеныя на музыку"**

| Аўтар | Назва верша | Кампазітары |
|---|---|---|
| Максім Багдановіч. | "Ноч" | муз. А. Багатырова |
| | "Лявоніха" | муз. А. Туранкова |
| | "Завіруха" | муз. Э. Тырманд А. Багатырова |
| | "Маладыя гады" | муз. А. Туранкова |
| | "Зімовая дарога" | муз. А. Туранкова Э. Тырманд |
| | "Слуцкія ткачыхі" | муз. А. Туранкова А. Багатырова |
| | "Зорка Венера ўзышла над зямлёю..." | муз. А. Туранкова А. Багатырова<br>муз. С. Рак-Міхайлоўскага<br>апрац. А.Багатырова, С. Палонскага |
| | "Зімой" | муз. Э. Тырманд |
| | "Вераніка" | муз. І. Лучанка |

# Збіральнік скарбаў народных

Хачу я сказаць колькі слоў пра Васіля Змітравіча Ліцьвінку з нагоды ягонага юбілею, хаця сам не фальклярыст, ды і ведаю яго не так ужо даўно. Аднак завочна я з ім быў знаёмы многа болей, толькі, як і большасць жыхароў Беларусі – па тэлевізары. Мне вельмі падабалася глядзець перадачу "Запрашаем на вячоркі". Было ў ёй тое, чаму ў свой час не знаходзілася месца нідзе, апроч, можа, фальклёрных зборнікаў, - жывая народная творчасць, жывая душа народа. А душой саміх перадач быў яе вядовец – Васіль Ліцьвінка. Ён настолькі гарманічна ўпісваўся ў стылістыку тых перадач сваёй натуральнай манерай паводзін перад камерай, ладам гаворкі, аблічам, нават такім гаваркім, самым што ні на ёсць беларускім прозвішчам, што здавалася, нібыта ён сапраўды гасцюе і вядзе рэй на вяселлі, провадах у армію, або ў калядаванні. Пазней я прысутнічаў на рэпетыцыі "Вячорак" у фае нашага факультэта і на свае вочы ўбачыў, як не проста дасягалася гэтая натуральнасць, нязмушанасць і праўдзівасць. Васіль Змітравіч сядзеў воддаль ад выканаўцаў і, здаецца, спакойна назіраў за танцамі і спевамі, не ўмешваўся ў работу кіраўніка ансамблю. Але потым тактоўна папраўляў, падказваў, як зрабіць лепей. Мусіць, якраз у тым, што Васіль Змітравіч ішоў у арганізацыі, падрыхтоўцы і вядзенні "Вячорак" ад назапашанага народам, а не ад нейкіх асабістых установак, што ён не навязваў свайго, і заключалася папулярнасць перадачы. Кожная была іншай, не падобнай на папярэднія, кожная адкрывала нешта новае. І ў той жа час адгукалася ў душы гледачоў, нягледзячы на тое, што не заўсёды яны бачылі абрады і святы, якія бытуюць і ў іх мясцовасці. Памятаю, як я разам з сястрой глядзеў аднойчы перадачу пра вяселле, і мы абое не маглі стрымаць слёз, бо згадвалася сваё, не аднойчы бачанае ў нашых родных Верацэях на Пастаўшчыне. Хай сабе на экране было і не ўсё гэтак, як у нашых мясцінах, але ўсё роўна гэта было сваё, дарагое і незабыўнае. І як шкада, што гэтая перадача па тэлебачанні звялася. Але яна мела свой плён: не дала звесціся народнай творчасці, застацца толькі ў памяці бабулек і дзядоў, натуральны, аўтэнтычны фальклёр стаў больш шанавацца, самадзейныя калектывы пачалі арыентавацца менавіта на яго, а не на модныя эстрадныя песенькі. У гэтым несумненная заслуга Васіля Ліцьвінкі.

Другі раз я не мог стрымаць слёз, калі па запрашэнні Васіля Змітравіча прыйшоў на Вялікдзень у Траецкае прадмесце, дзе фальклёрныя калектывы з розных раёнаў спявалі валікодныя песні. Хоць сам я ніколі з валачобнікамі не хадзіў, напамяць тых песень не ведаў, але ж колькі разоў чуў, і як яны нагадалі мне дзяцінства, калі я малы, схаваўшыся на печы, слухаў, як пад вакном спявалі "Вялік святы нам дзень настаў..." Згадваю гэта таму, што Васіль Ліцьвінка быў адным з ініцыятараў правядзення падобных выступленняў. І ён мае дачыненне да таго, што не толькі па вёсках, але і ў гарадах, у Менску цяпер калядуюць, ходзяць валачобнікі, адзначаюцца паводле народных звычаяў спрадвечныя нацыянальныя святы. А гэта даражэй за многае іншае.

Мне было вельмі прыемна пазнаёміцца з Васілём Змітравічам асабіста, а пазней быць з ім у адным працоўным калектыве. Аказалася, што ён, як і на экране, у жыцці такі самы вясёлы, дабразычлівы, апантаны сваёй любімай справай. Ён з тых людзей, якіх называюць кампанейскімі. Але не кожны можа аказацца "у кампаніі" з ім, а толькі той, хто, як і ён, захоплены любімай справай, хто нястомна працуе, робіць нешта карыснае для Бацькаўшчыны.

Ягоны галоўны занятак – збіранне і апрацоўка фальклёру. Тут Васіль Змітравіч прызнаны спецыяліст, яго эрудыцыя ў фалькларыстыцы – выключная. Ён выдатна ведае не толькі беларускі, але і рускі, украінскі, польскі, балгарскі, сербскі фальклёр, падтрымлівае сувязі з вучонымі-фалькларыстамі многіх замежных краін. Мабыць, немагчыма падлічыць, колькі ён сабраў узораў народнай творчасці, колькі трымае ў памяці песень, і не толькі трымае але і выдатна спявае іх. Аднойчы ў размове Васіль Змітравіч успамінаў, як ён яшчэ ў 70-я гады пазнаёміўся з Рыгорам Рыгоравічам Шырмам, як быў запрошаны ў госці, і збіральнік беларускага песеннага фальклёру не адпускаў маладога вучонага, слухаў песні, якія сабраў сам Ліцьвінка. А яму ўжо тады чым падзяліцца. Яшчэ ў дзяцінстве ён уведаў ад маці, бабулі, аднавяскоўцаў нямала рэдкіх песень, багата песенных скарбаў сабраў і тады, калі пачаў мэтанакіравана займацца фалькларыстыкай.

Рыгор Шырма стаў для Васіля Ліцьвінкі своеасаблівым узорам сапраўднага руплііўцы-збіральніка і захавальніка створанага народам. У ягоным рабочым кабінеце вісіць партрэт Шырмы, і гэта своеасаблівы сімвал працягу традыцый, наследавання, пераемнасці. Васіль Змітравіч не толькі пайшоў шляхам фалькляpыста-песенніка, але і даследаваў яго жыццё і творчую дзейнасць у паспяхова абароненай у 1984 годзе кандыдацкай дысертацыі "Рыгор Шырма – фалькляpыст".

Васіль Змітравіч аб'ездзіў у пошуках скарбаў народнай творчасці шмат запаветных мясцін Беларусі, але асабліва цікавіла яго роднае Палессе. Менавіта там адшукаліся такія рэдкія матэрыялы, якіх вучоныя ўжо не спадзяваліся знайсці. Так, у вучоным свеце выклікала вялікае здзіўленне тое, што Васіль Ліцьвінка запісаў унікальны абрад радзімічаў "Ваджэнне і пахаванне стралы", а таксама не менш старажытны – "Ваджэнне куста". І падобных рарытэтаў у архіве фальклёрных твораў, сабраных ім і студэнтамі і выкладчыкамі БДУ надзвычай многа.

Васіль Змітравіч заўсёды ў гушчыні спраў, звязаных з фальклёрам. Ён узначальвае навукова-даследчую лабараторыю беларускага фальклёру БДУ, Беларускі саюз фалькларыстаў, займаецца навуковай, выкладчыцкай, лектарскай дзейнасцю. У яго кабінеце частыя госці тыя, каму патрэбна дапамога, кансультацыя, парада, хто хоча знайсці апірышча ў сваіх звязаных з фальклёрам справах. Хаця "Вячоркаў" цяпер няма, але ён па-ранейшаму апякуецца фальклёрнымі калектывамі, дапамагае ім, чым можа. Перадае свой досвед маладым, рыхтуе новых руплііўцаў-збіральнікаў і даследчыкаў фальклёру. Хаця ім напісана больш за дзвесце навуковых прац, сярод якіх ёсць і шэраг салідных манаграфій, але Васіль Змітравіч не спачывае на лаўрах, ён назапасіў матэрыялу на дзесятак новых кніг, хоча абавязкова скарыстаць яго. А ў планах – новыя пошукі: На Браслаўшчыне, у Белавежскай пушчы, ля Нарачы і ў Прыпяцкім запаведніку. Распачата важная справа захавання і папулярызацыі беларускай вуснай народнай творчасці. Фальклёрная лабараторыя, якая сёлета таксама адзначае юбілей – дваццаць год існавання – пад кіраўніцтвам Васіля Ліцьвінкі працягвае сваю збіральніцкую, навуковую, выхаваўчую і папулярызатарскую дзейнасць.

"Вялік дзень", дзень юбілею настае для Васіля Змітравіча Ліцьвінкі. Ён сустракае гэтую дату з важкімі набыткамі, і, што галоўнае, з творчым гарэннем, з надзеяй яшчэ многа зрабіць. Хаця твар юбіляра і ўпрыгожвае барада, але па ягонай энергічнасці, апантанасці і захопленнасці ён выглядае маладым, і ён і ёсць малады, і ў яго наперадзе новыя здзяйсненні, новыя юбілеі. Хочацца пажадаць, каб усё ў ягоным жыцці было добра, каб здароўя, энтузіязму і шанцавання хапіла яму на добрыя справы!

*Міхась Кенька,*
*дацэнт кафедры*
*тэорыі літаратуры БДУ.*



Васіль Ліцьвінка ў рабочым кабінеце



У навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклёру БДУ




Каляндар свят і абрадаў беларусаў на 2002 год. Аўтар Васіль Ліцьвінка





# Нацыяналіст – харошае слова, не палохайцеся!

На мінулым тыдні студэнты і выкладчыкі філалагічнага факультэта ГДУ ім. Ф Скарыны мелі цудоўную магчымасць пагутарыць з выдатным літаратуразнаўцам, крытыкам, фальклярыстам, перакладчыкам ды канечне паэтам Нілам Сымонавічам Гілевічам. Мерапрыемства, арганізаванае таварыствам "Кніга", праходзіла ў актавай зале ўжо згаданай ВНУ. Вядома, што людзей, якія жадаюць сустрэцца з сапраўдным мастацтвам набралася шмат, таму памяшканне было перапоўнена, як гаворыцца, яблыку не было дзе ўпасці.

Першым выступіў прафесар, доктар навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ І.Ф. Штэйнер. Ён і прадставіў прысутным паэта. А пасля да мікрафону выйшау сам Гілевіч. Творца пажадаў моладзі не кідацца ў адчай, верыць у справядлівасць, у яе сілу і перамогу, навучыцца адрозніваць праўду ад хлусні, бо апошняй, на думку пісьменніка, надта шмат зараз у нашым грамадстве. Ніл Сымонавіч прапанаваў весці размову ў вусна-пісьмовай форме: гэта значыць кожны мог падаць лісток са сваім пытаннем на сцэну і атрымаць адказ. На такі дыялог усе хутка пагадзіліся, а таму Іван Штэйнер ледзь паспяваў збіраць і перадаваць лісткі. Гаворка пайшла і пра Чарнобыль, і пра каханне, і пра натхненне, і пра колькасць, напісанных паэтам вершаў, і пра мэтазгоднасць атрымання дыплому пры наяўнасці таленту... Але на мой погляд найбольш ключавымі ды важнымі былі вось якія два пытанні і адказы:

***— Скажыце, калі ласка, ці падабаецца вам сённяшняя беларуская моладзь у плане адносін да Радзімы, да сваёй мінуушчыны?***

– Мне вельмі падабаецца, што моладзь вывучае гісторыю, пачынае даражыць, ганарыцца нашым уласным, гісторыяй беларускага народа, яго духоўнымі скарбамі. На колькі мяне хапае, я сачу за гэтым і падкрэсліваю, вельмі радуюся за моладзь. Канешне, вялікая частка яе яшчэ не паднялася да такога ўзроўню, да духоўнага пачатку ў поўным сэнсе слова. Трэба ім дапамагчы. Ёсць моладзь, якая называецца нават нейкім патрыятычным словам, але я колькі іх не слухаю па радыё, па тэлебачанні, яшчэ ніводнага беларускага слова ад іх не пачуў. Не, вы ўяуляеце себе патрыёта Польшчы, які не скажа ніводнага слова па-польску, патрыёта Венгрыі, які не скажа ніводнага слова па-венгерску! Нонсэнс! Абсурд поўны! Не можа такога быць! А ў нас аказваецца можна быць патрыётам і ўваходзіць у нейкі саюз патрыятычны, але двух слоў не звязаць на мове гэтай зямлі. Пра што гаворка! Навучыцеся спачатку, гэта я ім кажу, сапраўды шанаваць Беларусь, гісторыю нашага народу, яго мастацтва, мову, тады мы пагаворым пра патрыятызм і што гэта такое.

***– Як вы ставіцеся да творчай спадчыны Багдановіча, Багушэвіча?***

– Багушэвіч першы зрабіў мяне нацыяналістам. Нацыяналіст – харошае слова, не палохайцеся! Гэта значыць, зрабіў патрыётам беларускай мовы, Беларусі. А Багдановіч – мая першая і да гэтага часу любоў.

Кожны прачытаны пісьменнікам верш зрываў апладысменты, а асабліва спадабаліся і запомніліся прысутным у зале вершы пра красну-дзеўку ды белмалойчыка.

Сустрэча была настолькі цікавая, што ніхто і не заўважыў, як праляцелі адведзеныя на яе дзве гадзіны. І хоць нам давялося расстацца з Нілам Гілевічам, але ў сэрцы ўсё яшчэ гарыць агонь натхнення, што запаліў пісьменнік, як не гасне і надзея, што такія мерапрыемствы стануць больш частай з'явай у ГДУ імя Ф. Скарыны.

**Наталля Старчанка,**
студэнтка 1 курса
філалагічнага факультэта
ГДУ імя Ф. Скарыны.




**На здымку: Ніл Гілевіч у фальклёрнай лабараторыі кафедры беларускай літаратуры і мовы Гомельскага Дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны. Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

*Ад народнага майстра па лазапляценню, равесніка, матэматыка* ***Міколы Валошчыка*** *шчырае віншаванне шаноўнаму Народнаму паэту Беларусі* ***Нілу Гілевічу*** *ў сувязі з яго 70-годдзем.*

***Віншаванне шлю паэту,***
***Хто ўсяму паведаў свету:***
***-Роднай мовы й Беларусі***
***Я ніколі не зракуся.***

***Шлю, шаноўны Ніл, сягоння***
***Пажаданне працы плённай,***
***Сіл, здароўя і надхнення.***
***Шмат зрабіць***
***для Адраджэння.***

***Спадзяванне не загіне***
***І надзея не пакіне.***
***Як нясе Ніл кліч народу***
***Йсці змагацца за Свабоду.***

***Ваша скруха за Радзіму***
***Сыйдзе з чорнай хай гадзінай.***
***А Ваш палкі заклік змусіць***
***Сну пазбыцца беларуса.***

*г. Белаазёрск.*

# Каласавіны – 2001

У пачатку лістапада, як звычай, Дзяржаўны мемарыяльна-літаратурны музей Якуба Коласа арганізаваў вандроўку па коласаўскіх мясцінах. Удзячваючы пастаянны склад удзельнікаў вандроўкі, вырашылі ўключыць у маршрут новыя мясціны: пазнаёміцца з Уздзеншчынай, пашырыць веды пра Стаўпеччыну.

Першай вандроўнікаў сустрэла славутая вёска Нізок. Дырэктар базавай школы Зміцер Судкаленка і яго жонка Вольга правялі ў школьны музей, дзе вучні на пявучай, не сапсаванай інтэрферэнцыяй мове паведамілі пра слынных аднавяскоўцаў: Паўлюка Труса, Кандрата Крапіву, Лідзію Арабей і інш. Спадарыня Лідзія Арабей, якая знаходзілася сярод прысутных, шчыра гублялася ад пачцівай увагі.

Гурт "Суседкі" Кухціцкага сельскага Дома культуры (кіраўнік – Алег Якубоўскі) віталі гасцей і словам і песняй. Ганна Міхальчук, загадчык аддзела культуры Уздзенскага райвыканкаму, зладзіла цікавае знаёмства з гісторыяй і сучаснасцю Уздзеншчыны. Тамара Лухверчык, намеснік дырэктара гісторыка-краязнаўчага музея, правяла па залах, расчыніла гераічныя старонкі сівой мінуўшчыны свайго краю. Рэдактар раённай газеты, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Нёманец" Віктар Сабалеўскі распавёў пра літаратурныя дасягненні людзей Уздзеншчыны, пра выданне 19 кніжак мясцовых аўтараў.

Вёска Стальбоўшчына, што на Стаўпеччыне, таксама сустрэла песняй – бел-чырвона-белымі колерамі народных строяў свяціліся ўдзельнікі гурта "Жывіца", вакальнага трыё народнага хору "Нёман" Старасвержанскага ДК. Дырэктар школы Лідзія Луцэвіч, настаўніца Зінаіда Жыбуль і вучні ў музеі Алеся Пальчэўскага пазнаёмілі з гераічнымі і трагічнымі старонкамі жыцця пісьменніка. Асабліва ўразіў эпізод з лістом у НКВД, дзе знаходзіўся данос на пісьменніка. Блізкі сябар папрасіў Алеся ўкінуць яго ў паштовую скрыню. Атрымліваецца, што 17-гадовае адбыццё ссылкі паэт улучыў у свой лёс сваімі рукамі. Пачатак стварэння музея зрабіла жонка Пальчэўскага грузінка Тамара, аддаўшы ў школу амаль усе рэчы з іх хаты.

Каторы ўжо год на Каласавіны сустракала гасцей сусветна вядомая Мікалаеўшчына. Па-восеньску звонкая, святочная гаманлівая. Цікавыя словы ля помніка класіку сцішвалі лістападаўскі пранізлівы вецер. Прысутнасць дзядзькі Міхася – сына Якуба Коласа, унучак слыннага песняра – Марыі і Веры, шматлікіх сваякоў нагадвалі пра несціханы рух жыцця.

Такое ж пачуванне ахапіла і ў Смольні, славутай на сустрэчу двух класікаў. І прымацаваныя да хаты барана, рэзгіны, баба (гнуць дугі) таксама сцвярджалі пераемнасць быцця. Там жа ў Смольні адбыўся цікавы лінгвістычны эпізод. Намеснік амерыканскага амбасадара Джон Кунштадтар, які вывучае нашу мову, прадэманстраваў захапляльнае веданне слоў ***рэзгіны, барана, гонта*** і інш. З групы маіх студэнтаў-першакурснікаў такіх знаўцаў было толькі двое.

Сапраўды, Беларусь – цікавая краіна. Толькі тут можна пачуць, як гавораць па-беларуску татары, яўрэі, палякі, азербайджанцы, літоўцы, цяпер ужо і амерыканцы, нават японцы, а вось некаторыя беларусы, на жаль, не. Дзякуй Богу, што гэтая незайзросная адметнасць абышла хату дзядзькі Якуба. А магла ж здарыцца жахлівая бязглуздзіца, бо ўнучка Марыя ў 60-х гадах, калі пасля "славутай" Пастановы ЦК КПСС 1958 усе бацькі-беларусы навыперадкі кінуліся вызваляць дзяцей ад вывучэння роднай мовы, не магла знайсці клас, дзе вывучалася б мова. А праўнукі Васіль і Васілінка, вучачыся ў беларускай гімназіі № 5, зведалі пасля рэферэндуму 1995 г. "славуты адкат" беларусізацыі.

Але нягледзячы на зігзагі ўвагі краіны да роднай мовы, апошняя і сцвярджаецца, і ўсталёўваецца. Хай сабе і людзьмі з замежжа. Хай сабе і часткай свядомых беларусаў. Хай сабе і нашчадкамі выбітных продкаў. Але жыве!

***Людміла Дзіцэвіч,***
***першы намеснік***
***старшыні ТБМ.***

# АД СЭРЦА ДА СЭРЦА

Пад апладысменты, 14 кастрычніка 2001 года, гасцінна адчыніла дзверы вечарына, прысвечаная сустрэчы з вядомымі беларускімі пісьменнікамі Уладзімірам Арловым і Зміцерам Бартосікам у чытальнай зале філіяла № 7 Цэнтральнай бібліятэкі імя А.С.Пушкіна горада Мазыра.

Вечарыну распачаў пісьменнік Уладзімір Арлоў, які расказаў коратка біяграфію Зміцера Бартосіка. Прыехаўшы на Беларусь, Зміцер, па нацыянальнасці – рускі, вельмі палюбіў мілагучную беларускую мову, беларускія песні, каляндарна-абрадавыя святы, чытаў вершы беларускіх паэтаў, кнігі беларускіх пісьменнікаў. Зміцер Бартосік добра ведае гісторыю Беларусі, прафесійна валодае беларускай мовай, складае беларускія песні і выконвае іх пад акампанемент гітары.

Вучні агульнаадукацыйных школ і настаўнікі, чытачы-пенсіянеры, студэнты факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання, усе прысутныя на адным дыханні слухалі песні, якія выконваў Зміцер Бартосік. Бурныя воплескі суправаджалі кожную песню, прымушалі Зміцера спяваць ізноў на тэму "З гісторыі Беларусі".

Спакойны, з усмешкай, так характэрнай для спевака, абвеяны нейкай ціхай журбой беларускай мінуўшчыны, - усё гэта зачаравалася ў песнях барда Зм. Бартусіка.

Уражанні былі самыя лепшыя ў прысутных, калі слухалі слыннага пісьменніка Уладзіміра Арлова. Што ж тычыцца маладых людзей, якія цікавяцца гісторыяй сваёй краіны, у іх абудзілася пачуццё патрыятызму, яны зразумелі, што моладзі ёсць за што любіць сваю Бацькаўшчыну. Гэтую любоў прынеслі кнігі У. Арлова, песні Зм. Бартосіка. Гэтую любоў да Бацькаўшчыны яны спазналі з твораў класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча... І сёння, на сустрэчы з жывымі пісьменнікамі, пачуццё патрыятызму абудзілася мацней.

Вялікі рэзананс выклікала эсэ Уладзіміра Арлова "Незалежнасць – гэта..." – тэкст, у якім па-філасофску закранаюцца ўсе бакі жыцця краіны: і палітычны, і эканамічны, і духоўны.

Прыемна было пачуць словы падзякі мазыранам. У.Арлоў адзначыў, што людзі горада Мазыра – ініцыятыўныя, аптымістычныя, што горад "Мазыр не спіць".

Словы, адрасаваныя вучням, студэнтам, моладзі, былі напоўнены азарэннем духоўнасці. Словы сягалі ўвысь, узвышаючы слухача, робячы яго асобай, індывідуальнасцю.

Сустрэча з пісьменнікамі яшчэ раз пераканала прысутных у тым, што трэба ведаць свае карані, гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, трэба любіць яе. Любоў да радзімы – гэта і веданне яе гісторыі, гэта – і павага да бацькоўш, дзядоў, гэта – абуджэнне пачуцця нацыянальнай самасвядомасці, пачуцця гонару за родную мову, пачуцця годнасці, бо патрыёта без пачуцця годнасці не бывае.

Ад сэрца да сэрца, асабліва надзённа, выклікаючы шчыры душэўны водгук прысутных, гучалі фрагменты з выступлення У. Арлова і песень Зм. Бартосіка.

У заключэнне аўтар 25 кніг пра Беларусь, пісьменнік У. Арлоў сказаў шчырыя словы ў адрас сённяшняй моладзі. Адзначыў, што яна больш смелая, што моладзь мае намнога больш магчымасці доступу да сусветнай культуры. Пажадаў, каб моладзь больш ціаніла сябе, свае намаганні на ніве беларушчыны, на ніве адраджэння сваёй нацыянальнай культуры.

Вечарына скончылася, аднак прысутныя не разыходзіліся: кожнаму хацелася пагаварыць з пісьменнікам, узяць аўтограф, набыць яго кнігі.

Дацэнт педінстытута ад імя ўсіх прысутных падзякавала пісьменнікаў за святло духоўнасці і выказала думку аб тым, што студэнты ф-та ПіМПН напішуць свае ўражанні ў інстытуцкую газету "Мазырскі педінстытут".

Дацэнт ***Людміла Піскун,***
Студэнты: ***Ірына Ганчар,***
***Жанна Абрамовіч.***

Павел Музычкін

# ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Максім Багдановіч – любімы паэт беларусаў, амаль усё сваё нядоўгае жыццё ён пражыў удалечыні ад Бацькаўшчыны і памёр на чужыне. Пры жыцці паэта выйшаў адзін зборнік вершаў "Вянок".

Постаць Максіма Багдановіча надзвычай прыцягальная, у ёй шмат загадкавага. "Госцем з высокага неба" назваў Багдановіча Аркадзь Смоліч – палітычны і культурны дзеяч, вучоны-географ, аўтар "Геаграфіі Беларусі".

У 1981 годзе была прынята пастанова аб стварэнні музея Максіма Багдановіча ў Менску. Музей адчыніўся ў 1991 годзе, да 100-х угодкаў з дня нараджэння паэта. Ён знаходзіцца ў двухпавярховым прыгожым мураваным будынку ў Траецкім прадмесці. Гэта старажытны куток на левым беразе Свіслачы. З матэрыялаў раскопак вядома, што культурнае жыццё тут існавала з канца XII стагоддзя. На Траецкай гары ў XIУ ст. існавалі Узнясенскі кляштар і царква, у XУII ст. – цэлыя кварталы забудоў.

Галоўнай вуліцай прадмесця была Траецкая, у XIX ст. перайменаваная ў Аляксандраўскую (цяпер вуліца Максіма Багдановіча). На гэтай вуліцы, у доме Карказовіча, у канцы XIX ст. месцілася І-я Менская прыходская вучэльня, у якой працаваў настаўнікам бацька паэта – Адам Багдановіч. Першы паверх дома з вучэльняй быў мураваны. Настаўніцкая кватэра Адама Багдановіча была на другім, драўляным, паверсе. Тут і нарадзіўся 27 лістапада 1891 г. будучы паэт Беларусі.


ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЭЙ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Літаратурны музей Максіма Багдановіча знаходзіцца непадалёк ад таго месца, дзе нарадзіўся паэт. З вялікай спадчыны Максіма Багдановіча ўласна мемарыяльных прадметаў засталося няшмат: чатыры асобнікі зборніка "Вянок", арыгінальныя здымкі, рукапісны зборнік вершаў "Зеленя", некалькі аўтографаў. Гэта каштоўныя здабыткі музея. Вялікі архіў паэта страчаны падчас Другой сусветнай вайны. Верагодна, што ён апынуўся за мяжой. Зборы музея – гэта здымкі, дакументы, рукапісы, кнігі, рэчы, якія належалі сваякам і знаёмым Максіма Багдановіча, яго сябрам, экспанаты, перададзеныя іх нашчадкамі.

Ладная частка экспанатаў сабраная дзякуючы руплівым пошукам і ахвярнай даследчыцкай працы бібліёграфа Ніны Барысаўны Ватацы. Музейныя калекцыі дапаўняюць тыпалагічныя прадметы часу, матэрыялы па багдановічазнаўстве і ўшанаванні памяці паэта.

Даследчык Іван Замоцін назваў паэзію Багдановіча "асяроддзем зачараваных люстраў". Паспрабуем зазірнуць у свет паэта, прачытаць ягоны "Вянок" – кнігу адзінства паэзіі і лёсу – праз вакно экспазіцыі, праз пяць невялікіх залаў.

Нешырокая лесвіца з каванымі металёвымі парэнчамі, упрыгожанымі раслінным арнаментам, вядзе на другі паверх. На вокнах уздоўж лесвіцы вітражы з сілуэтамі старога Менска. У цэнтры столі, зіхаціць у промнях зыркага святла вялікая жырандоля ў выглядзе пераплеценых вянкоў, струменяў і кропель дажджу.

Знаёмства з залай, якая мае назву "Дзяцінства паэта. Вытокі таленту. Цыклы "Згукі Бацькаўшчыны" і "У зачараваным царстве", пачынаецца з маленства на Беларусі. Экспазіцыю адкрывае мастацкая работа Пятра Драгова "Менск 1891 года", якая ўяўляе сабой рэканструкцыю старажытнага цэнтра Менска – Верхняга горада. Выгляд з Траецкай гары непадалёк ад месца нараджэння Максіма Багдановіча. Над панарамай – герб Менска – які быў нададзены гораду ў 1591 годзе – выява Маці Божай а вакол яе два анёлы, што малельна склалі свае рукі.

Даволі лёгка пазнаём Дамініканскі касцёл (XУІІ ст.), касцёлы Бернадзінцаў і Бернадзінак (XУІІ ст.), кафедральны (езуіцкі, фарны) касцёл, Святадухаўскую (уніяцкую) царкву (XУІІ), якая была перабудаваная ў XIX ст. і перайменаваная ў 1799 г. у Петрапаўлаўскі сабор. У гэтым саборы хрысцілі Вадзіма Багдановіча – старэйшага брата паэта, Ганну Гапановіч – стрыечную сястру і, верагодна, самога Максіма Багдановіча.

Бацька паэта – знакаміты этнограф і краязнаўца Адам Ягоравіч Багдановіч – нарадзіўся ў простай прыгоннай сям'і, здолеў вывучыцца і скончыць Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, а ў 1886 годзе атрымаў працу настаўніка ў І-й Менскай прыходскай вучэльні, аб чым сведчыць на стэндзе грамата ад 15 кастрычніка таго года ад кіраўніцтва Віленскай навучальнай акругі да маладога настаўніка. Маці – Марыя Апанасаўна Мякота – паходзіла з роду праваслаўных святароў, валодала музычнымі і лінгвістычнымі здольнасцямі, была таленавітым пісьменнікам, хоць і напісала ўсяго адно апавяданне. Вось як аб гэтым гаварыў яе муж: "Адно апавяданне, ёю напісанае, сведчыць, што яна валодала здольнасцю выяўленчасці, і пры гэтай умове з яе магла выпрацавацца добрая пісьменніца". Марыя вучылася спачатку ў Менскай Аляксандраўскай вучэльні, а пасля ў Пецярбурзе у земскай настаўніцкай школе. У экспазіцыі маецца з тых часоў "Свидетельство о поступлении в число слушателей Санкт-Петербургской Земской Учительской школы дочери дворянина М. А. Мякота" (рускі варыянт) за подпісам пецярбургскага граданачальніка. у 1893 г. у газеце "Гродненские губернские ведомости" было надрукавана яе, як мы ўжо казалі, адзінае апавяданне "Накануне Рождества".

19 (6) сакавіка 1890 года ў сям'і Багдановічаў нарадзіўся сын Вадзім, а 9 снежня (27 лістапада ст. ст.) – Максім. З жыцця ў Менску захаваліся літаральна адзінкі мемарыяльных рэчаў. Да іх належаць кавярнік бацькоў Максіма, якія былі аматарамі кавы. Таксама попельніца, партманэт (гамэтка), кій Адама Багдановіча. Некалькі самых старажытных сямейных фотаздымкаў, - бабулі і дзеда паэта, маці, бацькі. Летам 1892 года сям'я Багдановічаў пераехала ў Гарадню, дзе Адам Ягоравіч атрымаў працу ў Сялянскім пазямельным банку.

Першая катастрофа ў сям'і – у кастрычніку 1896 года ў 27- гадовым узросце ад сухотаў памірае маці. Апошні здымак Марыі Апанасаўны з кароткай стрыжкай, пасведчанне аб смерці, выдадзенае Гарадзенскім Сафійскім саборам, - памяткі сямейнай трагедыі. Са стратай маці страціў маленькі Максім і Радзіму: у лістападзе1896 года сям'я пераехала ў Ніжні Ноўгарад.

Дамінанта І-й залы – стэнд з матэрыяламі беларускіх фалькларыстаў (Я. Чачота, Е. Раманава, П. Шэйна), якія перадаюць настрой першых цыклаў "Вянка". У цэнтры стэнда кніга – этнаграфічны нарыс Адама Багдановіча "Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов" (Гародня, 1895 год). Гэта адна з настольных кніг Максіма, яна адкрывала паэту таямнічы і багаты свет уяўленняў і сузіранняў беларусаў – гэтая зусім невялічкая кніга – "унікум", яе ў 1913 годзе прышле "ў прэзент" Максім сакратару "Нашай Нівы" В. Ластоўскаму. Кніга бацькі ў комплексе з вышываным Марыяй Мякотай ручніком змешчана ў густоўна аздобленай скуранной рамцы. Гэта экспанаты – сімвалы. Мастацкае афармленне залы: гіпсавая лепка на столі часткова паўтарае арнамент ручніка; вырабы з саломкі нагадваюць Змяінага Цара, русалчыны косы, лясныя, балотныя і палявыя кветкі. Ручнік маці сімвалізуе памяць аб Бацькаўшчыне, шляхі Беларусі. Над ім змешчаныя два здымкі Максіма: арыгінал – Максім з братамі і цёткай Марыяй (фота зроблена ў хуткім часе пасля прыезду ў Ніжні Ноўгарад); муляж-выкадроўка ў круглай рамцы ў павялічаным выглядзе. У Ніжнім бацька Максіма стварае для сыноў вялікую бібліятэку, дзе знаходзіліся ўсе самыя лепшыя і значныя літаратурныя творы сусвету і якія старана чыталі і вывучалі Максім з братам.

На жаль, бібліятэка згарэла ў ліпені 1918 года падчас белагвардзейскага мяцяжу ў Яраслаўлі. Невялікую частку тое бібліятэкі збераглі і перадалі ў музей нашчадкі. Сярод выданняў, экспанаваных у музеі, "Калева" (фінскі народны эпас), "Юнацкія песні сербскага народу", кнігі М. Лермантава, Гётэ – мемарыяльныя.

Вядома, што Адам Багдановіч быў у сваяцкіх і сяброўвых адносінах з сям'ёй Пешкавых, з самім Максімам Горкім. Памерлы ў 4-хгадовым узросце сын Адама і яго жонкі Аляксандры Волжынай, таксама памерлай, - яна была сястрой жонкі "Буревестника революции" – выхоўваўся якраз у Пешкавых. У гэты перыяд, асабліва ў часы І-й рускай рэвалюцыі, браты захапляліся, як звычайна ў той час моладзь, таксама рэвалюцыйнымі ідэямі – Максім анархізмам, а Вадзім – народніцтвам. Пры гэтым яны зусім не сварыліся, наадварот – паважна адносіліся адзін да аднаго. Таму смерць брата ў 1908 г. ва ўзросце 18 гадоў ад сухотаў была моцным ударам па Максіму. Хавалі яго ноччу, бо паліцыя страшылася народных хваляванняў – гэта мы ведаем са слоў Паўла Багдановіча.

Першая дарадца паэта – Вольга Епіфанаўна Сёмава – працавала загадчыцай жаночай гімназіі спачатку ў Менску, потым – у Пінску, выкладала нямецкую і французскую мовы. Менавіта яна выпісала для Максіма "Нашу долю", а пасля "Нашу Ніву", што добра адлюстравана ў апошнім стэндзе І-й залы: нумары "Нашай долі", а таксама № 2, 3, 4, 6, 23 "Нашай нівы" ("Nasza Niwa"). Цэнтрам увагі Максіма Багдановіча было нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі і яе маладая літаратура.

Другая зала мае выразную назву – "Станаўленне творчай індывідуальнасці". Нізка вершаў "Старая Беларусь" і "Места". Яна адлюстоўвае літаратурны дэбют у "Нашай Ніве", паездкі паэта ў Вільню і Ракуцёўшчыну летам 1911 года, тэму нацыянальнага адраджэння ў спадчыне паэта. Кампазіцыйным ядром залы з'яўляецца своеасаблівы іканастас, або капліца – графічны рад з 12 постацяў рэлігійных і культурных дзеячоў старажытнай Беларусі. Другі – фатаграфічныя выявы беларускіх дзеячоў культуры і літаратуры XIX – пачатку XX стагоддзяў разам з творамі (сярод іх Якуб Колас і яго раман "У палескай глушы", Янка Купала, "Гусляр", Кастусь Каліноўскі з № 3, 6, 7 "Мужыцкай праўды", Францішак Багушэвіч і "Жалейка", Цішка Гартны і ягоныя "Песні" і інш.) Экспанаты-сімвалы – слуцкі пояс і Статут ВКЛ (рэдакцыя 1588 года).

У 1907 годзе ў газеце "Наша Ніва" (№24) з'явіўся першы друкаваны твор Максіма Багдановіча "Музыка", які і стаў своеасаблівым творчым маніфестам паэта. У хуткім часе былі надрукаваны творы "Прыйдзе вясна", "Ноч", "На чужыне", "Над магілай". "Страніца лепшая ў штодзённіку жыцця" – так назваў паэт гэты час. Ракуцёўскі творчы "даробак" – гэта два цыклы вершаў "Старая Беларусь" і "Места", а таксама дзве паэмы "Вераніка" і "У вёсцы" (нізка "Мадонны").

*(Заканчэнне ў наст. нумары.)*

(Заканчэнне ў наст. нумары.)

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 12. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2693.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
***Кошт у розніцу:*** 100 руб.